13 ЛІПЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№77 (608) КОШТ СВАБОДНЫ

## БЕЛАЯ СМЕРТЬ



стар.3

# А хто там ідзе?

## Рабочыя збіраюцца ў Мінск на праводзіны прэзідэнта 21 ліпеня



Міхась КАРПОВІЧ

**Першы Нацыянальны з'езд рабочых, які ў паўканспіратыўных умовах прайшоў у мінулую суботу ў мінскім Палацы ветэранаў, паказаў гатоўнасць працоўных да акцыяў пратэсту з патрабаваннем адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі.**

На з'езд прыехала, па падліках арганізатараў, каля 350 дэлегатаў рабочых, якія прадстаўлялі 300 прадпрыемстваў з 42 гарадоў Беларусі. Дэлегаты выказалі агульнае незадавальненне цяперашнімі ўмовамі аплаты іхняй працы і самавольствам начальства. На з'ездзе былі прынятыя некалькі зваротаў – «Да народа Рэспублікі Беларусь», «Да грамадзянаў Расіі», «Да народаў Еўропы», «Да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія працуюць у Палаце прадстаўнікоў», а таксама персанальна да Аляксандра Лукашэнкі. Рабочыя просяць прэзідэнта добраахвотна пайсці ў адстаўку 20 ліпеня, а калі такое не здарыцца, то абяцаюць распачаць 21 ліпеня масавыя выступленні супраць незаконнага захопу ўлады і дыктатуры.

«Мы, дэлегаты Нацыянальнага з'езда рабочых, перакананыя ў тым, што шлях Беларусі ў дэмакратычную Еўропу магчымы толькі без Лукашэнкі. Мы заяўляем пра сваё імкненне пабудаваць у Беларусі свабоднае грамадства з развітай эканомікай, дзе пануе парадак, законнасць, павага і дабрабыт грамадзянаў», – гаворыцца ў звароце да народаў Еўропы.

Што ж датычыць дэпутатаў з «палаты», якія былі туды прызначаныя А.Лукашэнкам, то рабочыя заклікаюць іх адмовіцца ад падтрымкі прэзідэнта і прытрымлівацца Канстытуцыі 1994 года. Такім чынам у дэпутатаў з'явіцца «шанц рэабілітавацца перад гісторыяй, сваім народам і ўласнымі дзецьмі».

Па словах старшыні аргкамітэта з'езда Сяргея Антончыка, 21 ліпеня каля 16 гадзіны ў цэнтры Мінска будзе арганізаванае свята праводзінаў Аляксандра Лукашэнкі з пасады прэзідэнта. Адпаведная заяўка ўжо была накіраваная ў гарвыканкам. Але калі дазвол на правядзенне такога свята мінскія ўлады не дадуць, то, як заявіў Сяргей Антончык, «ніхто не можа перашкодзіць рабочым разам з сябрамі і сем'ямі проста прагульвацца па горадзе».

З гісторыі вядома: рабочыя менш за ўсё цікавяцца палітыкай, але калі яны пачынаюць пратэставаць – чакай зменаў. У красавіку 1991-га сотні тысяч рабочых выйшлі на вуліцы Мінска, і гэта было найбольш маштабнае выступленне ў Беларусі за апошнюю дзесяцігоддзе.

Першы Нацыянальны з'езд рабочых праходзіў у надзвычайных умовах, меў пэўныя хібы ў сваёй арганізацыі – але ягоныя вынікі могуць рэальна паўплываць на палітычную сітуацыю ў Беларусі. Калі нават салігорскі шахцёр з месячным заробкам у 85 мільёнаў выступае супраць улады, не кажучы ўжо пра тых, хто атрымоўвае па 10-12 мільёнаў – гэта мусіць стаць папярэджваючым званочкам для ўсіх, а не толькі для дырэктараў заводаў і шахтаў.

21 ліпеня на вуліцы могуць выйсці галодныя і напалоханыя людзі – і гады ўладам будзе не так проста апраўдацца перад імі, як яны рабілі дагэтуль. 21 ліпеня можа стаць першым днём беларускай «аксамітавай рэвалюцыі» – і трэба быць да гэтага гатовымі. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Інфекцыя ў шклянцы малака

У Паставах зарэгістраваная ўспышка дызентэрыі. Да ўрачоў звярнулася больш за 500 чалавек, а 81 жыхар горада і раёна шпіталізаваны. Распаўсюджвальнікам захворвання стала прадукцыя Пастаўскага малаказавода, дзе выкарыстоўваецца шмат ручной працы. Пасля Калінкавічаў і Оршы сёлета гэта ўжо трэцяя ўспышка інфекцыі.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

### За Дзень Незалежнасці

Для тых, хто яшчэ не забыўся пра беларускі Дзень Незалежнасці – 27 ліпеня, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) хоча правесці шэсце і мітынг у Мінску. Адпаведная заяўка была пададзеная ў гарвыканкам.

### Югаславы супраць Мілошавіча

У Югаславіі працягваюцца выступленні грамадзянаў супраць рэжыму Мілошавіча. Яны патрабуюць адстаўкі югаслаўскага прэзідэнта. У апошнім шэсці, якое адбылося ў мінулую нядзелю ў правінцыі Ваяводзіна на поўначы Югаславіі, узяло ўдзел пяць тысяч чалавек. Цікава, што мясцовае дзяржаўнае тэлебачанне называе апазіцыянераў здраднікамі і натаўскімі прыхваснямі.

*Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

наша свабода

КРЫМІНАЛ

# Спонсара расійскіх «беркутаў» чакае суд

## Анатолю Сілівончыку, па папярэдняй інфармацыі, пагражае 3 гады турмы

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Матэрыялы па справе Анатоля Сілівончыка накіраваныя з Светлагорскай міліцыі ў раённую пракуратуру. Для правядзення ўсебаковага расследавання створаная спецыяльная група з удзелам міліцыянтаў і следчых пракуратуры.**

«Справа Сілівончыка набыла незваротны характар. Сілівончык з разраду часова затрыманых перайшоў у разрад арыштаваных, яму прад'яўлена абвінавачванне па частцы 3 артыкула 186 КК – гэта арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія прывялі да парушэння грамадскага парадку. Максімальнае пакаранне за такое злачынства – 3 гады», – распавёў НАВІНАМ маёр міліцыі Мікалай Глушэц. Пры гэтым ён не выключае, што ў канчатковым заключэнні следчых могуць з'явіцца і іншыя абвінавачванні – напрыклад, хуліганства з выкарыстаннем зброі, знявага дзяржаўных сімвалаў, супраціў уладам. «Усё будзе залежаць ад матэрыялаў, якія збяруць следчыя», – патлумачыў сп.Глушэц. Паводле ягоных звестак, ужо сабрана 12 заяваў ад пацярпелых. «На цяжкія траўмы ніхто не скардзіцца, але ёсць заявы, у якіх ідзе гаворка пра дрэнныя наступствы для здароўя», – сказаў маёр міліцыі Глушэц. Паводле ягоных словаў, сваю віну Сілівончык прызнае часткова.

Між тым, адвакат Вера Страмкоўская, якая будзе абараняць Сілівончыка падчас следства і, магчыма, у судзе, калі да яго дойдзе справа, заяўляе, што яе падабаронны вінаватым сябе не прызнае. «Ён не быў арганізатарам паходу расійскіх падлеткаў і іх выхавацеляў па маршрутах баявой славы ў Беларусі, а толькі спансіраваў гэты паход і дапамагаў дамовіцца з мясцовымі ўладамі», – кажа Страмкоўская. На яе думку, у Мікалаеўцы мела месца ўхіленне ўладаў ад выканання сваіх абавязкаў. У прыватнасці, напярэдадні ваенный гульні кіраўніцтва сельскага савета дало на яе дазвол, яно ж абавязалася папярэдзіць насельніцтва, але не зрабіла гэтага. Падчас «манеўраў» Сілівончык знаходзіўся ў сельсавеце. Ён нікога нікуды не накіроўваў і нікім не камандаваў. Усёй аперацыяй кіравалі іншыя асобы: дырэктар юнацкай школы «Беркут» Раман Вышкурцаў ды ягоныя намеснікі, ветэраны войнаў у Афганістане і Чачні, але гэтых асобаў нашыя ўлады чамусьці адпусцілі, а ўсю адказнасць за сапраўды вельмі непрыгожую гісторыю зараз ускладаюць на аднаго Сілівончыка», – лічыць адвакат Страмкоўская.

Анатолю Сілівончыку 42 гады, ён нарадзіўся ў Светлагорскім раёне, скончыў у Бабруйску тэхнікум і з'ехаў у Цюменскую вобласць. Там зрабіў кар'еру удачлівага бізнесмена. Яму належыць закрытае акцыянернае таварыства, якое займаецца абслугоўваннем аўтадарогаў. Сувязі з радзімай Сілівончык ніколі не губляў. У прыватнасці, удзельнічаў у з'ездзе беларусаў свету, які праходзіў два гады таму ў Мінску. Узгадваюць, што Сілівончык шчодра ахвяраваў грошы на культурніцкія праекты. Ён спансіраваў стварэнне копіі крыжа Еўфрасінні Полацкай, садзейнічаў выданню кніжак на беларускай мове. Праўда, тыя, хто знаёмы з Сілівончыкам, адзначаюць, што яму бракуе адукацыі і абыходлівасці з людзьмі. Што звязвае яго з арганізатарамі школы «Беркут» – застаецца пакуль невядомым.

«Сілівончык – гэта такі чалавек, які можа лёгка захапіцца нейкім праектам, толькі потым пачне разбірацца, ці варты гэты праект ягоных намаганняў», – кажуць людзі, якія добра ведаюць Сілівончыка. У выніку такіх няварты намаганняў бізнесмен апынуўся ў турэмнай камеры, а жыхары Мікалаеўкі пацярпелі пабоі, і даравапь сваю знявагу яны нікому не збіраюцца. ■

НАДВОР'Е




**14–15 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўднёвы, 3–9 м/сек. Тэмпература ночу 14–19. Толькі **15 ліпеня** па **Гродзенскай, Віцебскай** і захадзе **Мінскай** абласцей кароткачасовыя дажджы, у некаторых раёнах навальніцы, па **Віцебскай** вобласці магчымы град, вецер паўднёвы з пераходам на заходні, 6–11 м/сек, пры навальніцах парывы да 15–10 м/сек. Тэмпература ночу 15–20.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Пратэразойская эра

Па праўдзе, я наўрад ці пацікавіўся б, што такое «пратэразойская эра», калі б маю ўвагу не прыцягнула ў краме 5-літровая бутля з пітной вадой. Дзякуючы тэлебачанню, якое радзіць уважліва чытаць таварныя этыкеткі, я даведаўся, што ваду для піцця пад назвай «Манастырская» пастаўляе ў гандаль закрытае акцыянернае таварыства «Кцітар-II», і што экалагічна чыстая вада атрыманая з воднага гарызонту крамянёвых пародаў пратэразойскай эры і таму найбольш адпавядае фізіялагічным асаблівасцям чалавека.

З энцыклапедыі я даведаўся, што пратэразойская эра закончылася прыкладна 570 мільёнаў гадоў назад, а цягнулася ўражальны час — 2500 мільёнаў гадоў, для яе характэрнае станаўленне сушы, масавае развіццё ў акіяне сіне-зялёных водарасцяў, з'яўленне чарвякоў, губак, радыёлярый, членістаногіх.

Адзінае, чаго не змяшчала этыкетка, дык гэта адраса той свідравіны, праз якую ЗАТ «Кцітар-II» здабывае ваду з далёкіх гарызонтаў. Слова «кцітар» грэчаскае і ў перакладзе азначае «царкоўны стараста». Так што царква пачала клапаціцца пра фізічныя патрэбы паствы. Аднак асаблівую вартасць «кцітарскай» вадзе надае этыкетачнае паведамленне, што яна выробленая па блаславенню Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, а ўвесь атрыманы ад продажу даход пойдзе на будаўніцтва і развіццё манастыроў і на духоўную адукацыю. Зразумела, што піць гэтую ваду будзе не толькі карысна, але і прыемна, чым якую неблаславёную, бо прыбытак ад благаславёнай пойдзе на ўзмацненне нашага праваслаўнага экзархата. Аднак для яўрэяў, сектантаў, каталікоў этыкетка вельмі этычна ўтрымлівае набраную вялікімі літарамі перасцярогу: «Воды праваслаўнай Беларусі». Няхай адшукваюць свае свідравіны да запаветных крамянёў!

Адзінае, што пакуль перашкаджае шырокаму попыту — кошт: 5-літровая бутля каштуе 455 тысяч. Па 91 тысячы за літр. Гэта на 12 тысяч даражэй за літр «Мінскай-4». Але «Мінская» здабываецца з артэзіянскіх свідравінаў, а не з гарызонтаў пратэразойскай эры.

З другога боку, нашто благаслаўляць тое, што створана Богам за мільёны гадоў да ўзнікнення чалавека? Вада ж — нерукатворны цуд! Ды і нашто забягаць наперад бацькі, абвяшчаючы дзяржаўнасць праваслаўя Беларусі. Нават у часы Мураўёва ніхто не насмельваўся на гэтакія адназначныя характарыстыкі беларускіх губерняў. Зразумела, што царкоўны гандаль, як і свецкі, патрабуе рэкламы, але ж не такой дзіўнай і ідэалагічнай!

# Пушкін і «Беларусь»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У мінулую суботу ў Мінску адбылося афіцыйнае адкрыццё помніка слыннаму рускаму паэту Аляксандру Пушкіну. Да апошняга чакаўся прыезд маскоўскага мэра Юрыя Лужкова, які падараваў гэты помнік беларускай сталіцы. Аднак Лужкоў не прыехаў, прыслаўшы замест сябе свайго намесніка Валерыя Шанцава.

На мінскім дэбюце Пушкіна з'явіліся таксама і аўтары манумента — скульптар Юрый Арэхаў і архітэктар Юрый Грыгор'еў (дарэчы, першы намеснік галоўнага архітэктара Масквы). Беларускі афіцыёз быў прадстаўлены першым віцэ-прэм'ерам урада Васілём Далгалёвым, мінскім мэрам Уладзімірам Ярмошыным, дэпутатамі Нацыянальнага сходу Беларусі. Не пакінуў святочнае мерапрыемства без увагі і кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч.

У выніку ўсе засталіся задаволеныя. Масквічы – тым, што ўдалося «прыстроіць» помнік у добрыя рукі. Валерый Шанцаў у сваёй прамове так і сказаў: «Дзякуй, што пагадзіліся прыняць у падарунак ад урада Масквы гэты манумент». А то, маўляў, усё роўна выкідаць збіраліся. Мінскія ўлады – што паймелі ў бедным на архітэктурныя і іншыя славутасці горадзе яшчэ адзін прыпынак для экскурсантаў. Славянафілы – што славянскае сяброўства паміж краінамі ўзмацняецца. Мэр Ярмошын так падкрэсліў гэты момант: «Помнік стаў сімвалам мацнеючага адзінства расійскага і беларускага народаў, прыкладам стварэння адзінай культурнай прасторы і духоўнага ўзаемаўзбагачэння». Цырымонія скончылася музычна-тэатралізаваным прадстаўленнем на беразе Свіслачы. ■




Фота IREX/ProMedia

Фота IREX/ProMedia

Усім, хто хацеў хоць на хвіліну адчуць сябе Пушкіным, выдавалі адпаведную экіпіроўку. На фота: Пушкін—Пушкін і Пушкін — Міхаіл Мясніковіч.

# Да «Дажынак» не дажылі

Канстанцін УВАРАЎ

БелаПАН

У Шклове трое будаўнікоў, занятых у падрыхтоўцы райцэнтра да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу «Дажынкі-99», сталі ахвярамі няшчаснага выпадку. Праведзеная інспектарамі праверка паказала, што асноўнымі прычынамі надзвычайных здарэнняў сталі нездавальняючая арганізацыя работ і адсутнасць кантролю за працоўнай дысцыплінай. Адзін з працоўных у Шклове магілёўскіх будаўнікоў сарваўся з рыштаванняў, узведзеных каля будынка райвыканкама, і загінуў. Яго калега, на галаву якому ўпала цагліна, атрымаў цяжкую чэрапна-мазгавую траўму і зараз знаходзіцца ў бальніцы абласнога цэнтра. Ад удару токам памёр будаўнік, які быў камандзіраваны на дапамогу шклоўцам з Віцебска. Высветлілася, што ўсе трое рабочых былі ў нецвярозым стане. ■

# Европейцев кормят обещаниями

Пресс-центр Хартии'97

Заседание Комитета по правам человека парламентариев Межпарламентского союза (МПС) состоялось в Женеве 7-8 июля. В рамках этого заседания состоялись слушания по вопросу о нарушении прав депутатов Верховного Совета Беларуси. В слушаниях принял участие координатор Хартии'97 по международным связям Андрей Санников. В своем выступлении и ответах на вопросы он касался общей ситуации в Беларуси, завершения срока полномочий Лукашенко 20 июля, нарушения прав депутатов ВС А.Климова, В.Кудинова, В.Гончара, С.Богданкевича, В.Щукина, П.Знавца, С.Домаша и других. Кроме того, он привлек внимание членов Комитета к аресту М.Чигиря и исчезновению Ю.Захаренко. Были упомянуты «союз» с Россией и осложнившееся положение демократических партий и организаций в Беларуси.

В 1998 году Комитет МПС принял к рассмотрению более десяти дел о нарушении прав депутатов ВС Беларуси. Официально нашу страну в МПС, как известно, представляет назначенное Лукашенко Национальное собрание. Этот факт, однако, не мешает этой международной организации рассматривать случаи нарушения прав депутатов Верховного Совета.

После февральского заседания Комитета по правам человека МПС, в котором участвовал депутат ВС Анатолий Лебедько, было принято решение направить в Беларусь миссию МПС для изучения фактов нарушения прав депутатов на месте. Миссия должна была состояться в 20-х числах июня. Белорусские власти обещали любые встречи с официальными лицами и оппозицией, а также беспрепятственный доступ к содержащимся в заключении депутатам Владимиру Кудинову и Андрею Климову. Однако в самый последний момент власти отменили свое согласие на приезд миссии. Сейчас они вновь обещают европейским парламентариям все то же. Миссия должна приехать в конце августа — начале сентября. ■

ЖАРТ НУМАРА

**Сборная Беларуси по футболу в итоге попала в финальную часть Чемпионата Европы. Она собрала пять оберток от «сникерсов».**

*Агентство неполитических новостей*

## Беларускі след на какаінавым маршруце

Алесь ПАЎЛОВІЧ

16 расійскіх і беларускіх маракоў арыштаваны іспанскай паліцыяй на Канарскіх астравах. Як высветлілася, карабель, які абслугоўвалі расіяне і беларусы, вёз у Еўропу наркотыкі з Калумбіі. Канфіскавана 10 тон чысцейшага какаіну — гэта рэкордная для Еўропы здабыча. Спецыялісты ацэньваюць кошт затрыманай партыі прыблізна ў паўмільярда доляраў.

І нашыя, і расійскія маракі будуць прыцягнутыя да суда за перавоз наркотыкаў. Па іспанскіх законах ім пагражае да 10 гадоў турмы. Адзін з членаў экіпажа гэтага пакарання пазбегнуў — старшы памочнік капітана памёр ад сардэчнага прыступу, калі да карабля наблізіўся паліцэйскі катэр. ■

## Пазьняк адступіў

Аляксей ШМЯЛЁЎ

У суботу адбыўся чарговы сойм Беларускага Народнага Фронту, на якім гэты кіруючы орган партыі пацвердзіў, што з'езд БНФ адбудзецца 31 ліпеня—1 жніўня гэтага года.

Акрамя звычайных спрэчак, якія ўзнікаюць падчас усіх апошніх соймаў паміж дзвюма групоўкамі сапернікаў — прыхільнікамі Пазьняка і яго працўнікамі, была агучаная вельмі важная заява самога Зянона Станіслававіча. Бачачы, што такое жорсткае супрацьстаянне можа прывесці да дрэннага зыходу як для БНФ, так і для яго асабіста, ён выбраў «сініцу ў небе». Пазьняк згадзіўся, што Фронт павінен кіравацца з Беларусі, а яму дастаткова ролі ганаровага старшыні, прадстаўніка БНФ у замежжы, які б курыраваў не больш чым дыпламатычныя пытанні. Сапраўдным жа кіраўніком у гэтым выпадку з'яўляўся б інстытут намеснікаў, які б знаходзіўся ў Мінску.

Але і гэты кампрамісны варыянт задаволіў не ўсіх. Некаторыя найбольш актыўныя прыхільнікі Пазьняка заявілі, што яны пакінуць арганізацыю, калі Зянон Пазьняк не будзе зноў абраны сапраўдным старшынёй БНФ. ■

## Рок-акцыю сарвалі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Запланаваны на нядзелю антыфашысцкі мітынг і рок-канцэрт вядомых беларускіх гуртоў быў забаронены прадстаўнікамі ўлады, якія за некалькі дзён да таго самі ж яго дазволілі. Фармальнай падставай для такога рашэння стала адсутнасць пашпарта на гукаўзмацняльную апаратуру, што, маўляў, можа прывесці да пажару.

Незадоўга да планаванага пачатку канцэрта да прысутных падыходзілі маладыя людзі, якія запрашалі ўсіх прыняць удзел ва «ўрачыстых праводзінах прэзідэнта Лукашэнкі, у якога 20 ліпеня заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў». На ўлётках, якія раздавалі гэтыя людзі, быў указаны час пачатку праводзінаў — 21 ліпеня, 17:00, Кастрычніцкая плошча. ■

## Новы кіраўнік штаб-кватэры ААН

Алесь ДАШЧЫНСКІ

У Мінску прыступіў да абавязкаў новы прадстаўнік ААН/ПРААН 46-гадовы Ніл Бунэ. Нагадаем, былы прадстаўнік ААН у Беларусі Павел Крал пакінуў нашую краіну яшчэ ў лістападзе мінулага года. Спадар Бунэ — выхадзец з Канады, працаваў у прадстаўніцтве ААН у Малайзіі. Для яго прадстаўлення беларускім уладам у Мінск прыехаў дырэктар рэгіянальнага бюро ПРААН па краінах Еўропы і СНД Антон Круідэрынк. Падчас перамоваў будуць абмеркаваныя перспектывы стварэння Дома ААН у Беларусі. ■

## Под Минском проводились плановые полеты

В газете НАВІНЫ (№ 76, 9.07, 1999 г.) опубликована информация «Надзвычайнае здарэнне ў небе». В ней описывается полет над Зеленым Лугом-5 военного самолета, который, по мнению автора и очевидцев, падал, а летчики направили машину в сторону кольцевой, видимо, пытаясь посадить ее на аэродроме.

Соответствует ли эта информация действительности? За комментариями пресс-служба министерства обороны обратилась к Главному штурману ВВС полковнику Александру Анохину:

— 8 июля 1999 года проводились практические полеты авиации по плану командно-штабной военной игры ВВС и войск ПВО Вооруженных Сил Республики Беларусь. В ходе их осуществлялась проверка боеспособности ряда комплексов противовоздушной обороны, в том числе и тех, которые защищают город Минск. Расположение этих комплексов предполагало выполнение нескольких полетов самолетов вблизи границы Минска на малой высоте.

Эта задача была поручена самым опытным летчикам, которые выполнили ее в точном соответствии с заданием и благополучно возвратились на свои аэродромы. Во время полетов самолеты не пересекали кольцевую автомобильную дорогу.

***Пресс-служба министерства обороны***

# Пратэктарат Беларусь

Кастусь ТАРАСАЎ

**Ужо болей за два гады Беларусь і Расія вядуць інтэграцыйныя працэсы, і толькі які тыдзень таму з тумановаў дзяржаўнай таямніцы пачалі праступаць палітычныя контуры магчымага ўтварэння. Само акрэсленне «інтэграцыя» не азначае нічога большага, чым «аднаўленне», «варочанне». З афіцыйных каментароў да «інтэграцыі двух дзяржаваў у адзіную» вынікае, што аднавіцца павінна нешта такое, што існавала да снежня 1991 года, калі знік Саюз сацыялістычных рэспублік. Паколькі былыя суб'екты СССР, апрача Беларусі і Расіі, адступаюць ад інтэграцыі, як ад полымя, дык цікава, што рэальна жадае вярнуць Расія і што мае аднавіць Беларусь з той сістэмы і інстытуцыяў, якія існавалі ў давіскулёўскую эпоху?**

Прамень святла на цьмяны змест «інтэграцыі» направіў А.Лукашэнка 9 ліпеня бягучага года ў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкай газеты *Die Woche*. Прэзідэнт Беларусі патлумачыў, што ствараемы Саюз на час станаўлення будзе на ступень аб'яднанасці вышэй за Еўрапейскі Саюз, але пакуль што на ступень ніжэй, чым было ў Савецкім Саюзе. Плануецца, што ў будучыні новы Саюз па галоўных паказчыках аб'яднанасці стане вышэйшым за былы СССР.

Узгадваючы тое, што існавала да 1985 года, прыходзіцца прамаўляць палітычную банальнасць — у тагачасным Савецкім Саюзе Беларуская ССР у самастойнай якасці прысутнічала выключна на паперы. У рэчаіснасці гэта была правінцыя з 6 абласцей, якая мела ўладу, назначаную рэспубліканскімі рэгаліямі настолькі бутафорскімі, што ніхто не мог памыліцца адносна тэатральнай вартасці гэтай «рэспубліканскай» сцэны. Міністэрства замежных справаў складалася з міністра, тэхнічных сакратароў і прыбіральшчыцы. Прадстаўнікоў Беларусі пасылалі толькі ў ААН, дзе яны выконвалі функцыі папугая, які паўтараў словы прадстаўніка Саюза. Замест сваёй арміі была Беларуская ваенная акруга. Грошы друкавала і выдзяляла Масква. Нават сваёй камуністычнай партыі не было (толькі ЦК як пярвічная ячэйка).

Пасля 1991 года Рэспубліка Беларусь, хоць і святкавала 27 ліпеня Дзень Незалежнасці, на справе мела статус дамініёна. Калектыўная бяспека, энергетычная і эканамічная залежнасць ад усходняга гіганта трымалі РБ на кароткім ланцугу. Некаторае пашырэнне культурнай самастойнасці настолькі раздражняла расійскіх апекуноў Беларусі, што з небяспечнымі праявамі адраджэння мовы, і адпаведна беларускай псіхалогіі, хутка было пакончана на рэферэндумах.

Ухуткацечным занепадзе незалежніцкіх праяваў, праграмаў і настрояў адыграў значную ролю характар асобы Аляксандра Лукашэнкі. Ён, бясспрэчна, моцны пасіянарый, і таму, агілядаючы краявіды палітычнага поля, на якое ўступіў, адразу прыкмеціў магчымасць рэалізаваць свае мары на абшарах былой імперыі (саюза). У Расіі ўсе чыноўнікі — дзяржаўнікі па перакананнях, у нас такіх чыноўнікаў ніколі не было, а хто па перакананнях беларускі дзяржаўнік — той не займае чыноўнага месца.

Дарэмна прэзідэнту выстаўляюць папрокі за сённяшні стан эканомікі, вытворчасці, культуры, дабрабыту насельніцтва Беларусі. Ён меў большую мэту, да якой свядома набліжаўся і нарэшце наблізіўся. У выпадку стварэння Саюза Аляксандр Лукашэнка мае шанец заняць галоўнае месца ў Крамлі як у асяродку часткова аднаўленай імперыі. Такую магчымасць адкрывае пераўтварэнне РБ у пратэктарат. Расія выступае ў якасці пратэктара, а калі адпаведна праграме «інтэграцыі» адзінай валютай Беларусі і Расіі (аднаўленага Саюза) стане існуючы расійскі рубель, Беларусь вернецца ў паўнавартасны давіскулёўскі стан, гэта значыць, атрымае назад адкінуты статус правінцыі.

Таму цяпер усё залежыць ад таго, прыме ці не прыме Расія прапанову Аляксандра Лукашэнкі пра фарміраванне Саюза з абавязковай агульнай прэзідэнцкай уладай (канкрэтна: Ельцын — прэзідэнт, Лукашэнка — віцэ-прэзідэнт). Асабіста я не маю сумнення, што на пасадзе віцэ-прэзідэнта А.Лукашэнка прабудзе да таго дня, калі вызваліцца прэзідэнцкае крэсла. Апроч мноства прыхільнікаў у Беларусі, якім падабаецца думка, што «інтэграваны» Саюз узначаліць беларус, Лукашэнка будзе мець падтрымку расійскага электарата, якому абрыдла хлусня, гвалт, рабункі з боку свайго высокага чыноўніцтва.

Да сканчэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі застаецца 8 дзён. Пасля 20 ліпеня грамадства больш яўна падзеліцца на адэптаў далейшага валадарання Аляксандра Рыгоравіча і на працаўнікаў працягутай яшчэ на 2 гады легітымнасці ўлады. Аднак, як сведчыць гісторыя, пасіянарыі ўладу не аддаюць. Прэзідэнт РБ выдаткаваў шмат энергіі на засваенне расійскіх рэгіёнаў, па сутнасці ўжо прывязаў Беларусь да Расіі, і таму толькі ў сне можа прысніцца, што ён пакіне ўсе свае здабыткі ў падарунак нейкаму суперніку толькі з той прычыны, што нехта апаратэстоўвае вынікі рэферэндуму 1996 года.

Таму варта памаліцца богу, каб на бліжэйшы час мы заставаліся ў стане пратэктарата, бо з яго ўсё ж магчыма адсунуцца назад — на ступень дамініёна. Калі ж, крый божа, саюзны дагавор увасобіцца ў Законе, наша аднаўленая правінцыйнасць стане крыжам для Беларусі на гістарычна непрагляды час. Ёсць людзі, якім гэта надта пажадана, ёсць шмат людзей, якім робіцца млосна ад адной толькі думкі пра такі зыход. Усё, аднак, вырашыць наш народ, які, па беларускай завядзёнцы, не любіць выказвацца да апошняй хвіліны. А калі ўцяміць, што апошняя хвіліна ўжо прамінула і справа зроблена — дык суцешыцца думкай, што, відаць, так наканавана творцам. Мы — краіна хрысціянская, і палова насельніцтва схільная верыць, што без вышняй волі і волас з галавы не ўпадзе. ■

ДЫЯГНАЗ

## Лозунгофилы


Александр ПОТУПА

Богобоязненный человек, как известно, любит ближнего своего. Иногда залюбливает до смерти, но всегда с подобающим аппетитом. Президентобоязненный чиновник превыше ближнего любит лозунги, деликатесно тухлые и с приличной дозой политического перчика. От неизбежно наступающего умственного несварения народ постоянно поташнивает и периодически даже выворачивает. Полным доверием к власти при постоянном ухудшении уровня жизни и желанием жить, как в Германии.

Лозунг дня — полный приоритет производителя. Теперь чиновник может вычеркнуть из устава предприятия любой непроизводственный вид деятельности. А всякие торгашифинансисты-банкиры — паразиты и кровопийцы. Во всем мире знают, что производство, торговля и финансирование — неотъемлемые компоненты экономической системы. Но мы, как известно, за цивилизацией не спешим. У нас 2 (два!) наивысшийших образования, и с тех пор ни история, ни экономика ничему научить нас не могут. Мы их сами научим — многотриллионному затовариванию складов и многовекторной неплатежеспособности. И если надо, сделаем весь народ безяйцевыми и бесколбасными близнецами — пусть лузгают лозунги и осуществляют производственную деятельность в среднем за 20 центов в час.

Но это уже другой клинический признак *лозунгофилии* — усиление роли государства в экономике. Скоро в ней, родимой, ничего, кроме государства, не останется. Пять лет государства усиленного режима с последующей ссылкой на задворки мирового сообщества и поражением в правах человека — это срок. И, кажется, за попытку выжить наматывают еще от двух до семи с переводом на всесоюзный «особняк».

*Лозунгофилия* крепчает и изощряется. Завершается монтаж предпринимательского Совета при президенте. Под лозунгом «*предприниматели от сохи*», то есть, чтоб, не дай Бог, не занимались какими-то общеэкономическими вопросами, только своим производством. Очень правильно — неча умничать. Тем более, есть богатый опыт.

Один такой *от сохи* недавно сумел *втюхать* высшему руководству (или *ноговодству* — чем там они водят?) несколько банальных «теневых» схем под маркой государственной экономической программы. Если б кто в 1996 году попытался *втюхать* проект небоскреба из навоза вице-премьерствующему строителю Прокоповичу, тот бы навек обиделся. Ибо знает, что небоскребы из оного материала не строятся, и потому никаких триллионов на создание навозо-конструкционного производства и закупку импортного сырья ни в жисть не кредитовал бы. А вот в малознакомой макроэкономической и банковской сферах — нет проблем.

И возник не вполне приличный анекдот со спецэмиссиями и самосвальным грехопадением в сфере золотого запаса. И казенным домом в конце. Который, впрочем, не конец. *Отсохатые лозунгофилы* наступают. ■

# «Белая смерть» с Черного континента

Федор БЕШКЕКОВ

*Продолжение. Начало в №76.*

Одним из самых распространенных методов нигерийской наркомафии по контрабандному перемещению наркотиков остаются почтовые отправления. Отправитель, как правило, является вымышленным либо указывается адрес гостиницы, отеля, школы и т.д. Получатель — курьер, который в дальнейшем будет транспортировать наркотик по назначению, либо лицо, используемое наркодельцами «втемную», в основном это сожительницы наркодельцов или выходцы из других африканских стран. Для пересылки отправлений с наркотиками используются, в основном, международные ускоренные почты EMS и TNT, срок доставки посылок у которых 3—10 дней. Последнее обстоятельство требует максимального сокращения сроков на подготовительные мероприятия для организации захвата преступников и информирования спецслужб стран, через территорию которых будет осуществляться транзит.

Эффективность доставки наркотика данным способом в любую точку мира обусловливает, в первую очередь, то, что при этом гарантируется сохранность груза по всему пути следования с обязательным уведомлением и документальным подтверждением причин задержки доставки со стороны экспресс-почты.

Механизм доставки посылок и писем по этому каналу предусматривает персональный таможенный досмотр почтового отправления лишь в конечном пункте (в стране, где проживает получатель). Например, посылка, которую необходимо переслать в Беларусь из Южной Америки, помещается в стране отправителя в контейнер, который следует в одну из стран Европы. Затем контейнер доставляется в аэропорт, к примеру, Франкфурта-на-Майне. Там почтовые отправления сортируются по странам-получателям, упаковываются в мешки и пломбируются в присутствии представителя экспресс-почты. Посылки, поступающие в Беларусь, направляются в Москву, откуда пересылаются в Минск для таможенного досмотра и вручения адресату. В данной цепочке выявить закладку в посылку наркотического вещества можно лишь при тщательном таможенном досмотре каждой посылки с использованием собаки либо специальной аппаратуры.

По данным российских спецслужб, об активном использовании почтового канала международными наркогруппировками говорит тот факт, что в 1998 году на некоторых направлениях (США, Нидерланды, Турция, Нигерия) количество изымаемых посылок с героином увеличилось более чем в десять раз по сравнению с 1997 годом и достигает 6—7 кг в месяц.

Возросло также число выявленных фактов отправки наркотиков в страны СНГ из Пакистана, в основном из городов Пешавар, Исламабад, Лахор, Сиалкот. При этом вес единичных вложений достигает 900 граммов. Некоторые партии наркотических веществ переправляются даже в незакамуфлированном виде. Так, если раньше их ухищренно скрывали внутри обложек книг, спортивного инвентаря, в деталях одежды и т.п., то сейчас чаще закладывают в почтовые конверты, открытки и свернутые газеты.

После ряда задержаний таких посылок нигерийские наркогруппировки оперативно изменили маршруты: посылки с наркотиком из Таиланда, Пакистана, Индии и Бразилии сначала направляются в одну из стран Балканского полуострова. Это обусловлено поверхностностью таможенного досмотра, который проводится в государствах, возникших после распада Югославии. Далее посылка может переадресовываться в одну из стран СНГ. По расчетам наркодельцов, почтовое отправление из европейской страны не привлекает внимания таможенных органов и может избежать тщательного досмотра.


● Гражданин Нигерии **Чили Аносике Темпли** с одним из индийских «партнеров по бизнесу»

Прогнозируя развитие ситуации, в белорусских спецслужбах не исключают возможности того, что многочисленные почтовые отправления, содержащие практически незамаскированные вложения наркотиков, могут свидетельствовать о начале отработки новых маршрутов их доставки в страны СНГ более крупными наркосиндикатами.

Нарастающий наркотический вал вынуждает объединять усилия спецслужб. Комитет государственной безопасности Беларуси тесно сотрудничает с соответствующими структурами Нидерландов, Германии, России, США, Украины и Казахстана. Только благодаря этому за последние несколько лет проведены успешные операции по методу «контролируемой поставки», который требует исключительной согласованности действий правоохранительных и таможенных органов всех стран. Главной отличительной особенностью этого метода является уникальная возможность, проследив маршрут продвижения наркотика, привлечь к ответственности всю цепочку преступников.

В октябре 1997 года метод был реализован. В результате специальной операции, проведенной КГБ совместно с ГТК Беларуси и таможенной службой Германии, в Минске при получении двух посылок с сокрытой в них партией кокаина весом в 510 грамм с поличным задержан проживавший в Беларуси по поддельным документам на имя Келвин Билли Агайиси гражданин Нигерии Келвин Чима Узома по кличке «Гибсон». Посылки следовали по маршруту Сан-Паулу—Франкфурт-на-Майне—Минск. Наркотик был запрессован в стенки посылок таким образом, что обнаружить его даже с помощью специальной аппаратуры было возможно только под определенным углом просмотра. Операция по захвату «Гибсона» получила название «Чёрный дождь». В роли почтальонов, доставивших посылку, выступили бойцы группы «Альфа». Однако, несмотря на то, что спецназ действовал стремительно (для вскрытия укрепленной двери квартиры «Гибсона» пришлось прострелить замок), нигерийцы сдаваться не намеревались. Только услышав подозрительный шум в коридоре, они попытались сбежать. Немногочисленные прохожие в тот час были шокированы зрелищем выпрыгивающих с третьего этажа здоровенных негров. А кадры видеосъемки «полета над улицей Ольшевского» обошли новости крупнейших телеканалов. К несчастью для нигерийцев, которые сразу по приземлении (без единой царапины! — дети природы!) попали прямо в руки следователей КГБ, в ожидании задержания уже оформлявших последние бумаги. В дальнейшем наркодельцы намеревались доставить кокаин через курьера для реализации в Москву.

Не менее эффектно прошла операция, которая останется в архивах КГБ под кодовым наименованием «Читатель». 10 января 1998 года из правоохранительных органов Германии поступило сообщение о следующей из Таиланда в Республику Беларусь транзитом через Германию посылке с героином. ▶

Окончание на стр.4

# «Плавільшчыкі расы»

**Міраслаў ЧЭНТЭРЫЦКІ**

Так называецца кніга выбраных вершаў Славаміра Адамовіча, надрукаваная ў Вільні. Гэта шосты паэтычны зборнік паэта. Першая, яшчэ падсавецкая, кніжачка называлася «Кальварыйскія клёны» і пабачыла сьвет у 1990. У Полацку выйшлі з друку наступныя дзьве: «Зямля Ханаан» і «Зваротныя правакацыі». У Польшчы выйшла чацьвёртая кніжка — «Каханьне пад акупацыяй». Гэта быў 1996 год, калі аўтар ужо знаходзіўся ў віцебскім сьледчым ізалятары. Зборнічак турэмных вершаў «Сьпіраль Бруна» надрукавалі ў 1998-м...




16 чэрвеня, сёлета, калі ўжо было вядома пра вымушаны ад'езд у Польшчу паэта Уладзіміра Някляева, Адамовіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У тайным галасаваньні 25 прагаласавалі «за» і 6 «супраць». ■

**КРЫМІНАЛ**

# «Белая смерть» с Черного континента

*Окончание.*
*Начало на стр.3*

ГТК и Комитет госбезопасности Беларуси приняли решение о спецоперации «контролируемая поставка» по выявлению получателей героина на белорусской территории и других лиц, принимавших участие в организации контрабандного канала. В ходе проверки, проведенной совместно таможенными органами и оперативным подразделением КГБ, было установлено, что в начале января 1998 года по каналу экспресс-почты в Республику Беларусь из Таиланда транзитом через Франкфурт-на-Майне был отправлен героин (139,04 грамм), сокрытый в обложке книги, которая находилась в почтовой посылке среди трикотажных футболок. Получателем посылки значился гражданин Республики Камерун Пийнчу Джоханес Нде, проживающий в Могилеве.

В результате проведенных оперативно-розыскных мероприятий 20 января 1998 года сотрудниками КГБ в момент получения посылки были захвачены с поличным сам Пийнчу, а также гражданин Камеруна Агбор Джон Ашу. Последний незадолго до этого прибыл в Могилев из Москвы и проживал в квартире Пийнчу. В тот же день следственным отделом КГБ Беларуси в отношении указанных граждан Камеруна было возбуждено уголовное дело. Предварительное следствие доказало, что в период с 1 по 11 января 1998 года Пийнчу Джоханес Нде вступил в преступный сговор с Агбором Джоном Ашу с целью контрабандного перемещения в почтовой посылке из Таиланда в Республику Беларусь героина. От Пийнчу требовалось получить наркотик и передать его для последующей транспортировки Агбору Джону Ашу. В Москве Агбор должен был передать героин для последующего сбыта в одну из нигерийских группировок.

Для выявления лиц, причастных к деятельности указанного контрабандного канала перемещения наркотиков в Беларусь и Россию, использовались возможности Национального центрального бюро Интерпола. Во взаимодействии с ФСБ РФ производились необходимые следственные и оперативные мероприятия на территории России. Полученные сведения указывали на устойчивость и разветвленность канала, который охватывал, кроме названных стран, также Германию, Грецию и другие страны Европы.

В результате Пийнчу Джоханесу Нде и Агбору Джону Ашу назначено наказание в виде 8 лет лишения свободы каждому с конфискацией имущества.

Нет смысла перечислять все «подвиги» нигерийских группировок. Помимо переправки и торговли наркотиками, они активно изыскивают и новые способы нелегального заработка в нашей стране. Изощренная изобретательность, которая придает нигерийцам особенную опасность, сочетается с чуть ли не детской наивностью, с которой наши соотечественники продолжают относиться к лицам африканского происхождения.

Необходимо осознать, что разница в цвете кожи не делает человека хуже или лучше жителей другого континента. Кому-то эти обращения к здравому смыслу могут показаться смешными. Однако более глупо выглядят те, кто полагает себя намного умнее своих нигерийских деловых партнеров. КГБ республики неоднажды предотвращал мошеннические операции нигерийцев на отечественных предприятиях. ФСБ столкнулась даже с таким прецедентом, как похищение российского банкира. Для того, чтобы вернуть «акулу капитала» из Африки домой, пришлось очень здорово поработать. Правоохранительные органы Нигерии не в состоянии справиться с криминальной предприимчивостью своих граждан. Но тема «нигерийские мошенничества» требует отдельного исследования, и мы к ней еще вернемся. ■

# Афганец, які «не ваяваў»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Ці можа чалавек, які ваяваў у Афганістане ў сярэдзіне васьмідзесятых, не лічыцца воінам-інтэрнацыяналістам і пазбавіцца ўсіх адпаведных ільготаў? У СССР такое было магчыма, магчыма такое і ў цяперашняй Беларусі.**

Мікалай Фёдаравіч Апалюк да траўня 1986 года служыў у савецкім войску ў званні старшага прапаршчыка і з'яўляўся сціплым начальнікам аднаго са складоў бронетанкавага завода. Пакрыху ішоў стаж, і вось калі ён набліжаўся да лічбы 15, Мікалая Фёдаравіча адправілі ў Дэмакратычную Рэспубліку Афганістан, дзе ён мусіў 2 гады прабыць там жа начальнікам склада боепрыпасаў. Не вельмі хацелася старшаму прапаршчыку Апалюку ехаць у ДРА, але абавязак ёсць абавязак, і ён пачаў выконваць яго з усёй адданасцю справе.

У выніку быў узнагароджаны двума медалямі, што сталі добрым дадаткам да папярэдніх пяці, заслужаных яшчэ ў Беларусі.

Пакрыху два гады службы падыходзілі да канца, і Апалюк з нецярпеннем чакаў адпраўкі на радзіму. Але, як ні дзіўна, замена яму не прыбывала, і ён мусіў заставацца ў ДРА. Мінулі два гады, пасля яшчэ месяц, яшчэ два...

Калі пайшоў 29-ы месяц службы ў Афганістане, а замену ніхто і не думаў прысылаць, у Апалюка пачалі здаваць нервы — дадому хацелася вярнуцца жывым, і як мага хутчэй. Мікалай пачаў піць, ставячы на складзе боепрыпасаў брагу. На гэта не надта звярталі ўвагу, і, калі б не наступны ўчынак старшага прапаршчыка Апалюка, пэўна, усё б скончылася добра. Але ён, у чарговы раз зняўшы стрэс спіртным, выказаў услых сваё незадавальненне курсам, якім ідзе кіраўніцтва краіны, КПСС, з-за якой ён, маўляў, ужо 6 лішніх месяцаў сядзіць у Афганістане. З гэтымі словамі ён паспрабаваў разарваць свой партбілет, але намеснік камандзіра па тэхнічнай частцы выхапіў партбілет і аднёс яго зампаліту. Той, у сваю чаргу, правёў з Апалюком «тлумачальную гутарку», але Мікалай хацеў толькі аднаго — дадому, і ўсе размовы аб кіруючай ролі КПСС яму былі абсалютна абыякавыя.


Мікалай Апалюк

Кіраўніцтва часці пайшло на вельмі жорсткія меры — звольніла старшага прапаршчыка з Узброеных Сілаў СССР па артыкуле 46 «ж» («за ўчынак, які дыскрэдытуе званне ваеннаслужачага») і выслала на радзіму. Замена яму, дарэчы, знайшлася адразу.

Але, вярнуўшыся на Беларусь пасля 30 месяцаў у ДРА з медалямі за ўдзел у вайне, Апалюк на просьбу аб ільготах як воіну-інтэрнацыяналісту пачуў: «А вам не паложана, вы цяпер як бы не ваявалі». Шок. Што ж тады Мікалай Апалюк рабіў гэтыя 30 месяцаў у Афганістане? На курорце быў?

І ён пачаў дабівацца праўды, пішучы лісты ва ўсе інстанцыі.

Але адказ адусюль быў адзіны: «Ваеннаслужачыя, звольненыя па артыкуле «дыскрэдытацыя», правам на льготы не карыстаюцца». Тое, што ў адносінах да Мікалая Фёдаравіча закон быў парушаны значна раней, калі яго на 6 месяцаў затрымалі ў ДРА, ніхто не зважаў.

Надзея з'явілася, калі прыйшоў адказ ад ваеннага камісара РБ І.Літоўчанкі, які пісаў, што ў асобных выпадках дазволеныя выключэнні. Пацвердзіў гэта і начальнік 4 аддзела ВК РБ маёр Крылоў, які дапісаў унізе: «...меркаваў бы ўнесці на рашэнне камісіі і выдаць яму пасведчанне на льготы...»

На жаль, камісія прыняла адмоўнае рашэнне. Як жа, ён жа партбілет парваць хацеў! Так і ходзіць былы старшы прапаршчык Апалюк з узнагародамі з афганскай вайны, на якой правёў 30 месяцаў, але без папераў, што ваяваў, і належных ільготаў. Абсурдная сітуацыя, якая была магчымая ў колішнім камуністычным СССР. Але чаму яна магчымая ў цяперашняй Беларусі?

***Падрыхтавана па матэрыялах праваабарончага цэнтра «Вясна-96»***

# Падатак «на храм»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**У Салігорску мясцовыя ўлады збіраюць грошы на пабудову праваслаўнага храма даволі экзатычным шляхам. У рэдакцыю газеты НАВІНЫ патэлефанаваў чытач і паведаміў, што ў ягоным родным Салігорску ўведзены падатак на храм. Фірмы і прадпрымальнікі незалежна ад веравызнання мусяць выдаткоўваць пэўную суму грошай на ўзвядзенне храма Раства Хрыстова.**

Відавочна, што ўвядзенне такога падатку з'яўляецца парушэннем закона – бо царква ў нас аддзеленая ад дзяржавы, і таму любы падатак на карысць царквы – гэта не проста нонсэнс, але эканамічнае злачынства. Таму мы вырашылі высветліць усе падрабязнасці ўвядзення такога падатку.

У Салігорскім гарвыканкаме нам спачатку ахвотна прызналіся, што такі падатак быў уведзены яшчэ 10 сакавіка гэтага года рашэннем сесіі гарадскога савета дэпутатаў. Але пасля загадчыца фінансавага аддзела гарвыканкама Таццяна Смалюгова па-іншаму сфармулявала сутнасць гэтага грашовага пабору: «Гэта ніякі не падатак, а проста добраахвотныя ахвяраванні». Дык што, ніякага парушэння закона няма?

Але падчас далейшай размовы з Таццянай Смалюговай высветліліся цікавыя рэчы. Аказваецца, пасля дэпутацкага рашэння ў Салігорску сабраўся мясцовы савет дырэктараў прадпрыемстваў, на якім было аднагалосна вырашана «адсцёбваць» царкве кавалачак прыбытку. Асабліва вызначыліся ў спансіраванні праваслаўнага храма прадпрыемствы «Беларуськалій», «Салігорскпрамбуд», «Калінка», «Купалінка» і іншыя. Як аказалася, «іншыя» – гэта ледзь не ўсе гарадскія фірмы і прадпрымальнікі. «Нам усе плацяць, – з гонарам запэўніла Таццяна Смалюгова. – І плацяць добрасумленна». Само слова «добрасумленна» ўжо сведчыць пра прымусовы характар збору «ахвяраванняў».

Пакуль што на храм назбіралі разам 63 мільярды. Нявамат – калі параўнаць з праэктамі будаўнікоў. Увесь комплекс храмавых будынкаў будзе каштаваць «трыльёны рублёў» – а з сабраных сродкаў салігорскія праваслаўныя мяркуюць пабудаваць акурат да пачатку 2000 года хрысціцьню. Астатняе пабудуюць пазней – калі набяруць дастаткова грошай.

Галоўны бухгалтар аб'яднання «Беларуськалій» так пракаментавала збор «добраахвотных ахвяраванняў»: «Ну, вы разумееце, праваслаўны храм усё роўна патрэбны гораду. У нас ужо ёсць каталіцкі сабор, баптысцкія малельныя дамы – а праваслаўнага храма няма». Аб'яднанне штомесяц адсліньвае царкве са свайго прыбытку 1-1,5% ад фонду заробітнай платы.

А вось што распавёў нам былы галоўны архітэктар Салігорска Ян Далматовіч: «Храм пачалі будаваць амаль у цэнтры горада, у зялёнай зоне паміж вуліцамі Канстанціна Заслонава і Чыгуначнай. Нашаму гораду толькі сорак гадоў, развіваўся ён вельмі дынамічна, і зялёных куткоў у Салігорску практычна няма. А цяпер ледзь не апошняя зялёная зона разбураецца – там будуюць гэты храм. Такім чынам, парушаецца лінія развіцця горада, горад губляе сваё аблічча».




Як бачым, знешне ўсё выглядае прыстойна, аднак, па сутнасці, гарадскія ўлады Салігорска «гуляюць» даволі брудна. Бо як ні называй абавязковы плацёж у касу царквы – ахвяраваннем, дабрачыннасцю ці неяк яшчэ, але па сутнасці гэта падатак. Ці, калі гаварыць на мове стасункаў «бізнесмен-рэкет», — даніна. І тут царкоўны рэкет мала чым адрозніваецца ад дзяржаўнага ці крымінальнага. Асабліва калі ўлічыць, што «ахвяраванні» ўносяцца «добрасумленна» і ў фіксаваным памеры.

Відавочна, дзяржава праводзіць палітыку прымусовага насаджвання праваслаўя – як раней насаджваўся «камунізм». Ва ўсялякім выпадку, метады засталіся тыя ж.

***P.S.*** *Мэтай гэтага матэрыялу не з'яўляецца дыскрэдытацыя рэлігіі. Але рэдакцыя газеты НАВІНЫ лічыць антыканстытуцыйнымі ўсялякія спробы надання любой рэлігіі статусу дзяржаўнай.* ■




Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 570 Нумар падпісаны ў друк 12/07/99 (15:00) Наклад — 16.700